№ 9 10 (81)
10 сакавіка
1997 г

# НАША НІВА

Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 у Вільні. Адноўленая зноўсама у ... як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску

Гісторыя

## "Што яны выраблялі!.."

Васіль Струпавец паказвау мне хату, дзе савецкія партызаны расстралялі ягоную сям'ю. У гэты момант да нас падыйшла старая жанчына. Я запытаўся у яе пра савецкую партызанку.

– Рабавалі яны нас кожны Божы дзень, – гаворыць Яўгенія Афанасеўна Ш... – Што яны выраблялі!.. Ад немцаў у нашай весцы ні адзін чалавек не загінуў, а партызаны забілі 45 вяскоўцаў. Толькі некаторыя пахаваныя па-людзку, на могілках. Большасьць людзей вазілі ў лес, там забівалі, там і закопвалі... Маю сястру, Надзю, забілі, пакінулі пяць яе дзяцей сіротамі...

*Матэрыял Сяргея Ярша ў сэрыі "Партызанскімі сьцежкамі"*

*На старонцы 6*

## Востраў сьмерці

...Менавіта на востраў Назіна 18 траўня 1933 году была дастаўленая першая партыя "элемэнтаў гарадзкога тыпу", людзей, затрыманых пераважна ў Менску і Маскве як бяспашпартных, – 4900 чалавек. Другая партыя – 1174 чалавекі – паступіла 27 траўня. Да 12 чэрвеня было зарэгістравана 1473 памерлых. Да зімы загінулі амаль усе... Гэта лічбы афіцыйных архіўных, нядаўна яшчэ зусім сакрэтных дакумэнтаў...

Пра тое, што адбылося з нашымі землякамі на Востраве сьмерці – у артыкуле Ігара Кузьняцова

*На старонцы 6*

Літаратура

## БОГУМІЛ ГРАБАЛ

**У Празе памёр Богуміл Грабал. Сусьветна вядомы пісьменьнік, легенда чэскай літаратуры.**

**3 лютага, кормячы галубоў, ён выпаў з вакна пятага паверху праскага шпіталю 82-гадовы стары, які любіў пісаць без чарнавікоў, любіў піва, любіў птушак і кошак.**

**Тэма разьвітальнага падзеньня адкрыта ўваходзіць у ягоныя тэксты: "Некалькі разоў я хацеў скочыць зь пятага паверху, з гэтай маёй кватэры, дзе кожны пакой робіць мне балюча, але анёл заўсёды ўратоўваў мяне ў апошнюю хвілю..."**

**Сёньня "Наша Ніва" ўпершыню па беларуску друкуе апавяданьне Богуміла Грабала "Што такое карчма", а таксама эсэ Аляксандра Лукашука "Піва з тыгрыцай".**

*На старонках 10-11*






## Грабніцы македонскіх цароў



Зрабіць сэнсацыйнае адкрыцьцё ў галіне антычнай археалёгіі Грэцыі амаль немагчыма. Але прафэсар Маноліс Андранікас такое адкрыцьцё ўсё ж зрабіў...

"Расчысьціўшы фасад грабніцы, археолягі нарэшце ўбачылі дзьверы, за якімі знаходзіўся ўваход у пахавальную камэру. Андранікасу шчасьціла – дзьверы былі цэлымі і знаходзіліся на сваім месцы. Аднак прабірацца ў яе прыйшлося праз скляпеньні. Раскапаўшы дах пахавальнай камэры і зьняўшы адну з плітаў, археолягі 8 лістапада 1977 г. змаглі ўпершыню больш чым праз 2000 гадоў пасьля збудаваньня грабніцы зазірнуць у цёмнае скляпішча..."

Артыкул Міколы Крывальцэвіча у сэрыі "Археалягічныя адкрыцьці сьвету".

*На старонках 4-5*

## Гітлер — «вялікі» ці кожны з нас?

Сёньняшняя "хваля Гітлера" трапляе на добры момант глябальных пераацэнак. Адно з пытаньняў, якія ставіць сучасная кінематаграфічная і кніжная "гітлерыяна" – ці быў Гітлер вялікім?

*Артыкул на старонцы 7*

Чачэнскі дзеньнік

## Каханьне да цяжкага хворага

Сёньня мы працягваем публікацыю сэрыі матэрыялаў, якія карэспандэнты "Нашай Нівы" прывезьлі з паездкі на прэзыдэнцкія выбары ў Чачэнію ў канцы студзеня. Гэтым разам – занатоўкі Таццяны Сьнітко.

*На старонках 4-5*

## «Бітва» з «Аляксашкам»

Севярын Квяткоўскі



"Ёсьць тры варыянты. Выбар залежыць ад настрою. Я творца, настрой — мая стыхія" — сказаў адзін добры чалавек, паэт і анархіст. Пасьля сьвяткаваньня 930-ых угодкаў першай пісьмовай згадкі Менску мы размаўлялі на адвольныя тэмы, што не датычыліся славутай Бітвы на Нямізе. Мімаходзь мой суразмоўца азначыў ключавое слова, якое вызначае плён ці ня кожнай акцыі з тых, што ладзяцца незалежнымі коламі ў апошнія гады. Гэтае слова – настрой.

"Ідзеш сёньня на акцыю?" – "Пэўна, не: няма настрою", "Ну як учора было на дэманстрацыі? – Файна, крута адвязаліся!", "Штосьці сумна робіцца, хутчэй бы якая акцыя"...

У арганізатараў "Бітвы на Нямізе", што сьвяткавалася 2 сакавіка, было некалькі варыянтаў: зрабіць тэатралізаванае відовішча, зрабіць чыста палітычную акцыю (зь верагоднай "сапраўднай бітвай з рыцарамі") альбо ўвогуле нічога не рабіць. Апошні варыянт, бадай, найбольш непрымальны. Хаця...

Вельмі часта грамадзяне, якія маюць пэўныя палітычныя пазыцыі, тлумачаць свой няўдзел у вулічных акцыях наступным чынам: "А што гэта зьменіць?" Але калі такія людзі "праз не хачу" трапляюць на якую-небудзь дэманстрацыю, яны часам робяцца заўсёднікамі вулічнае палітыкі. Гэта здараецца ў тым выпадку, калі яны вяртаюцца з акцыі ў добрым (узьнёслым, вясёлым, баявым і г.д.) настроі.

З тых пяці-сямі тысячаў людзей, што прыйшлі на Замчышча, багата хто арыентаваўся на імпрэзу, на пэрформанс. А хтосьці проста йшоў "на акцыю". Сапраўды, абвешчанае "сьвяткаваньне 930-ых угодкаў Менску" спарадзіла надзею ўбачыць тэатральную "бітву", ахінуцца ў адмысловы карнавал. Тым больш, што мы памятаем прэцэдэнты падобных сьвяткаваньняў угодкаў Грунвальдзкай бітвы.

На Замчышчы настрой быў сьвяточны. Было сказана колькі словаў пра значнасьць мінулай падзеі, калі нашыя продкі абралі адзіны магчымы для сябе варыянт: не здалі горад

Гл. на старонцы 2



